ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

### В Самарре арестованы родственники главного иракского партизана



Американские военные арестовали четверых родственников бывшего вице-президента Ирака Иззата Ибрагима аль-Дури (на снимке). Они были задержаны во время спецоперации в Самарре, в которой были задействованы несколько десятков военнослужащих, заявили представители американской администрации в Ираке. По предварительным данным, двое задержанных непосредственно контактировали с аль-Дури и могут предоставить ценную информацию о его местонахождении.

Напомним, что аль-Дури считается одним из главных руководителей иракского сопротивления. За информацию, которая поможет в его поимке, США обещают заплатить 10 миллионов долларов. За последние несколько месяцев неоднократно появлялась информация о том, что аль-Дури арестован либо сам сдался в плен, однако ни разу она не получала подтверждения.

### Министры Ирана защитят свободные выборы ценой собственных постов

Члены иранского правительства заявили о своей готовности уйти в отставку в случае, если в стране не будет принята резолюция об участии кандидатов от реформаторских сил в парламентских выборах. По мнению корреспондента Би-Би-Си, такое заявление является не угрозой, а четким предвестником событий, которые могут произойти в Иране. Между тем, приверженцы радикальной линии призывают членов Совета стражей, занимающегося отбором кандидатов для участия в выборах, оставить в силе введенный запрет. Согласно этому запрету, возможности участвовать в выборах лишились 2000 сторонников политических реформ в Иране.

Духовный лидер Ирана аятолла Али Хаменеи высказал мнение о необходимости решения возникшего конфликта законными способами. На практике это может означать продолжение дискуссии еще две недели до той поры, пока не будут опубликованы новые результаты работы Совета стражей.

### Американцы «пересмотрели» итоги советских экспедиций на Венеру

Американский ученый обработал на современном компьютерном оборудовании черно-белые цифровые фотографии поверхности Венеры, сделанные советскими спускаемыми аппаратами в 1975 году. Таким образом были получены самые качественные изображения нашей соседки по Солнечной системе. Дон Митчелл, занимающийся историей советских экспедиций на Венеру, использовал оригинальные цифровые изображения, на которых впервые была запечатлена поверхность Венеры. Они были сделаны спускаемыми модулями "Венера-9" и "Венера-10", которые были оборудованы передовыми для своего времени фотокамерами. От внешнего воздействия они были защищены стеклом из кварца в 1 сантиметр толщиной. Средняя температура на поверхности Венеры достигает 490 градусов Цельсия при давлении в 90 раз больше земного.

Первым космическим кораблем отправившимся к Венере стал советский зонд "Венера-1", запущенный в феврале 1961 года. Сейчас он находится на орбите вокруг Солнца.

### Принц Чарльз подарил Оззи Осборну виски, чтобы он быстрее поправлялся



Принц Чарльз прислал бутылку виски в подарок бывшему алкоголику Оззи Осборну (на рисунке), который залечивает ранения, полученные им при падении с квадроцикла. Известно, что в буйные молодые годы певец выпивал по литру русской водки в день. Но теперь, по словам его жены Шэрон, он не берет в рот ни капли, хотя и очень признателен принцу Уэльскому за его подарок.

Шэрон Осборн выразила свое отношение к принцу Чарльзу, которого подозревают в причастности к гибели своей жены принцессы Дианы, следующими словами: "Принц передал нам привет, и пусть никто не говорит, что он "плохой парень", потому что у него нормальные отношения с Осборнами. Он прислал моему мужу бутылку скотча, который он, конечно, не будет пить".

### Шотландцы попросили Абрамовича помочь им с оленями-самцами

Шотландские оленеводы обратились к чукотскому губернатору Роману Абрамовичу с просьбой помочь им улучшить породу стада северных оленей. Директор Кейрнгормского питомника северных оленей в районе Гленмор на севере Шотландии Тилли Смит, узнав о том, что в распоряжении владельца лондонского клуба Chelsea имеется стадо северных оленей, попросила его выделить 11 оленей-самцов для улучшения породы стада. В питомнике находится 150 северных оленей, пасущихся на 2400 гектарах вересковых пустошей в горной Шотландии. Госпожа Смит всерьез озабочена ухудшением генофонда оленей. "В нашем стаде не было прилива свежей крови с 1995 года, а для нас очень важно поддерживать его генофонд на должной высоте", — пояснила она. "У господина Абрамовича есть тысячи самых здоровых и крепких оленей в мире, которые могли бы значительно улучшить кровную линию нашего стада, — считает госпожа Смит. — Поэтому я попросила его предоставить в наше распоряжение несколько чукотских самцов".

ЗЕМЛЯКІ

# Дранікі для Барыса Кіта

## Невыпадковая сустрэча

*Ведаю: будучы ў Германіі, Юрый Пашык сустракаўся з сусветнавядомым нашым земляком Барысам Уладзіміравічам Кітам. Як тут не распытаць? І мой субяседнік пачаў з інтрыгі.*

— За паўгадзіны да сустрэчы сапсавалася машына, давялося выклікаць эвакуатар, і я спалохаўся, што не паспею пачысціць бульбу на дранікі. А дранікі мы прыдумалі як сюрпрыз для нашага знакамітага земляка.

**— А як Вы наогул пазнаёміліся з Барысам Кітам?**

— Па справах службовых мне даводзілася бываць у Германіі і раней, дзе я кожны раз сустракаюся з беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі, якія там вучацца і працуюць, — сказаў Пашык. — Аднойчы пачуў ад іх, што ў Франкфурце-на-Майне жыве Барыс Кіт — наш легендарны зямляк, адзін з вынаходнікаў ракетнага паліва, пачэсны акадэмік шматлікіх акадэмій, які вельмі шмат зрабіў для ажыццяўлення касмічнай праграмы ЗША. І я папрасіў нас пазнаёміць. Мне далі тэлефон, я патэлефанаваў Барысу Уладзіміравічу і дамовіўся аб сустрэчы ў цэнтры Франкфурта на кватэры нашага агульнага сябра Аляксандра Зданчука, які паспяхова закончыў у Германіі універсітэт і служыць у адным з франкфурцкіх банкаў. Барыс Уладзіміравіч паабяцаў прыйсці з жонкай Тамарай. Аляксандр запрасіў у госці некалькіх нашых маладых суайчыннікаў і для ўсёй гэтай прыемнай кампаніі я збіраўся прыгатаваць дранікі з мачанкай.

*...У жыцці выпадковасцяў не бывае: калі Юрый Пашык аказаўся адначасова з Барысам Кітам у адной краіне, сустрэча іх проста не магла не адбыцца, бо неардынарныя людзі заўсёды прыцягваюць адзін аднаго. Еўрапейскі адукаваны чалавек, профі вышэйшай пробы і гарачы патрыёт Беларусі Юрый Пашык здолеў крыху больш за дзесяцігоддзе маленькую лабараторыю пры "Гарызонце" ператварыць у Беларускі сертыфікацыйна-выпрабавальны цэнтр, аналагаў якому няма на ўсёй тэрыторыі СНД. На думку самых аўтарытэтных замежных спецыялістаў, якія займаюцца распрацоўкай сусветных стандартаў і метадаў выпрабаванняў, калектыў "Белліса" — унікальны, а дзейнасць адпавядае самым строгім міжнародным патрабаванням. Юрый Аляксандравіч лічыць, што беларусы могуць і павінны выраблядь прадукцыю самага вышэйшага сусветнага ўзроўню, а прызначэнне "Белліса" — дапамагчы выйсці з ёю на міжнародны рынак.*

*Пашык амаль удвая маладзейшы за Барыса Кіта, якому мінула 93 гады, так што праз паўстагоддзе, магчыма, хтосьці з маладога пакалення скажа: "А мы з Пашыкам, аказваецца, не толькі землякі, але і калегі!"*

### Вучыць людзей трэба ў любых умовах

*Адмахнуўшыся ад філасофскіх думак, я працягвала распытваць Юрыя Аляксандравіча.*

**— З чаго пачалося ваша знаёмства?**

— Барыс Уладзіміравіч запытаўся: "На якой мове будзем размаўляць? На матчынай?" "Зразумела!" Кіт шчыра любіць Беларусь і вельмі цікавіцца ўсім, што тут адбываецца.

**— Тады чаму ён пакінуў Радзіму?**

— Трэба ўзгадаць, у якой сям'і нарадзіўся Барыс Кіт. Бацька яго, Уладзімір Аляксандравіч, вясковым хлопцам прыехаў у Пецярбург, дзе працаваў і адначасова вучыўся на курсах сувязістаў. У Пецярбургу ён ажаніўся з Ксеніяй Дзімітрыеўнай Зуравай, якая паходзіла з сялян і была родам з Цвярской губерні. Пасля заканчэння курсаў Уладзімір Аляксандравіч зрабіў бліскучую кар'еру: у 1910 годзе, калі Барыс Кіт з'явіўся на свет, ён займаў пасаду начальніка Упраўлення міжнароднай сувязі Міністэрства сувязі Расійскай імперыі, гэта значыць, што ён быў чыноўнікам высокага ўзроўню і выконваў адказную і складаную работу. Мы ведаем, што сёння сувязь — гэта стратэгічны накірунак у дзейнасці любой дзяржавы, а на пачатку стагоддзя яна толькі развівалася, і Уладзімір Аляксандравіч, несумненна, быў чалавекам з вялікім аб'ёмам тэхнічных ведаў, высокім узроўнем інтэлекту, навыкамі дыпламата і адпаведнымі рысамі характару. Сваёй кар'ерай ён, безумоўна, быў абавязаны толькі сваім здольнасцям і ўпартасці характару, таксама, дарэчы, як і дзед Барыса Кіта, які ў высокаразвітай гаспадарцы графа Храптовіча даслужыўся ад сезоннага рабочага да адміністратара.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі сям'я вярнулася ў Беларусь, Уладзімір Аляксандравіч пачаў працаваць у гімназіі, а Барыс закончыў Віленскі універсітэт, атрымаў званне магістра матэматыкі і ў 1940 годзе ўжо займаў пасаду дырэктара Навагрудскай беларускай гімназіі, якая аднавіла сваю дзейнасць па ініцыятыве Кіта: у 1934 годзе яе зачынілі польскія ўлады. Дарэчы, прозвішча яго роду — Кіта, што значыць па-беларуску "вязанка сена", але пасля рэвалюцыі, калі насельніцтву мянялі дакументы, літара "а" згубілася.

Потым яго прызначылі інспектарам Баранавіцкай акругі, і яму ўдалося за год адкрыць дзесяткі пачатковых і сярэдніх школ, што было вельмі цяжкай работай.

**— У Беларусі ўжо ўсталявалася Савецкая ўлада?**

— Так, і па словах Барыса Уладзіміравіча, беларускае насельніцтва яе шчыра вітала, бо польскія ўлады вельмі негатыўна ставіліся да беларускай і рускай культуры. Але пачаліся рэпрэсіі, якія закранулі і блізкіх людзей. Потым прыйшлі гітлераўцы і паўтарылася тая ж гісторыя: небяспека, тэрор, фізічнае знішчэнне людзей. Барыс Кіт — мужны, незалежны чалавек і сапраўдны педагог — лічыў, што вучыць людзей трэба ў любых умовах. Без дазволу мясцовых улад ён адкрыў настаўніцкую семінарыю ў Маладзечне, з калі яе зачынілі, заняў пасаду дырэктара ў Пастаўскай семінарыі, дзе адмовіўся выконваць некаторыя загады нямецкіх улад: забараніў, напрыклад, навучэнцам убіраць з вуліц трупы расстраляных, нягледзячы на ўсе патрабаванні гітлераўцаў. У выніку Барыс Кіт аказаўся ў турме, і ад расстрэлу яго выратавалі толькі намаганні былых вучняў.

Надышоў 1944 год. Барыс Кіт шчыра радаваўся вызваленню Беларусі ад немцаў, але добра ўсведамляў, чым можа стаць для яго вяртанне Савецкай улады. Пражыванне на часова акупіраванай тэрыторыі было як кляймо, нават у анкетах мелася адпаведная графа. А людзі ўжо стаміліся фізічна і маральна, за кароткі час улада мянялася часта, і кожная такая змена з'яўлялася пагрозай: заўсёды выяўлялася, хто быў альбо толькі здаваўся больш лаяльным да папярэдняга рэжыму.

Барыс Кіт, які за сваю беларускасць, за сваю культурную і асветніцкую дзейнасць сядзеў у турме не толькі пры немцах, але і пры паляках, зноў ісці туды не жадаў. Сталінскі рэжым мог перакрэсліць не толькі кар'еру, але і жыццё. І Барыс Кіт вырашыў пакінуць Радзіму.

### З днём нараджэння яго віншуе прэзідэнт ЗША

**— Дзіўна, што сям'ю Кітаў не рэпрэсіравалі яшчэ перад вайной з-за высокага чыну, які Уладзімір Аляксандравіч займаў напярэдадні рэвалюцыі... Ці не паспелі, ці шмат часу прайшло? Што ж датычыцца Барыса Кіта, думаю, наўрад ці яму дазволілі б займаць пасаду, вышэйшую за пасаду настаўніка,** — *разважаю я.*

*Пашык працягвае думку:*

— Мне вядомы лёс майго дзеда, які служыў да рэвалюцыі ў імператарскім гусарскім палку. У 1917 годзе ён падтрымаў бальшавікоў, удзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях, стаў камуністам, а потым працаваў школьным настаўнікам на Лагойшчыне. Калі пачалося раскулачванне, ён выступіў у абарону сям'і свайго брата, які меў пасеку і быў вельмі працавітым чалавекам. Але больш крамольнымі, чым пчолы, аказаліся прыгожыя завушніцы, якія насіла яго жонка. З-за іх усіх членаў сям'і, разам з былым гусарам, аб'явілі ворагамі народа і адправілі ў ссылку. Пасля вяртання дзеду дазволілі працаваць толькі школьным бібліятэкарам і рэгулярна нагадвалі, што ён быў асуджаны па 58-м артыкуле. Так што можна ўявіць сабе магчымы лёс Барыса Кіта!

**— Па сутнасці, пасля свайго ад'езду Барыс Кіт паўтарыў шлях дзеда і бацькі: пачаў кар'еру з нуля, прычым на чужыне?**

— Безумоўна, Кіт — чалавек унікальны: у Германіі, куды спачатку прыехаў, вывучаў медыцыну, у ЗША, дзе апынуўся потым, — хімію. Але пачынаў Кіт не зусім з нуля. Ён сказаў мне: "Матэматыка заўсёды дапамагала сістэмна падыходзіць да любой тэмы. І калі я заняўся хіміяй, навіта матэматычная базавая адукацыя дапамагла сістэмна падысці да стварэння ракетнага касмічнага паліва".

Дарэчы, Барыс Кіт — не толькі матэматык, фізік, хімік, але і доктар філасофскіх навук. А матэматыку ён выкладаў не толькі ў амерыканскіх і еўрапейскіх, але і ў японскіх, індыйскіх універсітэтах. У НАСА ён папаў, калі агенцтва толькі стваралася, і больш як 25 гадоў займаўся касмічнымі даследаваннямі. Думаю, што яго ўклад у развіццё касманаўтыкі ЗША больш сур'ёзны, чым вядома грамадскасці, бо тэма гэтая даволі сакрэтная. З днём нараджэння Кіта віншуе прэзідэнт ЗША і жонка прэзідэнта, я сам бачыў віншаванні. А разам з ім у гэтай галіне працавалі вучоныя розных краін, у прыватнасці, знакаміты Вернер фон Браун.

**— Як ён ставіцца да фон Брауна, які ў час Другой сусветнай вайны працаваў на Гітлера і з'яўляецца аўтарам ракет ФАУ-2? І другое: касмічныя даследаванні — гэта і работа на ваеннапрамысловы комплекс, а ЗША і СССР доўга знаходзіліся на розных "палюсах". Ці няма, на Ваш погляд, у Кіта адчування, што ён працаваў супраць сваёй Радзімы?**

— У Барыса Уладзіміравіча свой пункт гледжання на многія рэчы. Да фон Брауна, як я зразумеў, ён ставіцца з павагай, нават кнігу разам з ім напісаў. Кіт не змешвае такія паняцці, як *краіна* і *рэжым*, *нацыя* і *дыктатар*... Адзін вучоны ў сілу акалічнасцяў працаваў на Гітлера, другі — на Сталіна, трэці — яшчэ на кагосьці... Фон Брауна не асудзілі як ваеннага злачынцу, напэўна, у Кіта ёсць падставы ставіцца да яго з павагай.

Што ж датычыцца яго работы на ЗША, якая магла ў нейкі момант абярнуцца супраць СССР, то гэта пытанне філасофскае. Барыс Кіт, як вучоны, як матэматык, хутка зразумеў, што камуністычны рэжым нежыццяздольны і ператварыў краіну ў сапраўдную "імперыю зла", і, думаю, свядома змагаўся супраць яго, а не супраць сваёй Радзімы.

Дарэчы, у гады халоднай вайны ён быў адказным за прыём усіх савецкіх дэлегацый, якія прыязджалі ў ЗША па пытаннях кантактаў у касмічнай галіне. У 60-м годзе, па яго словах, адбыўся першы сход амерыканскіх і савецкіх касмічных супрацоўнікаў, у далейшым ён з задавальненнем працягваў працаваць у гэтай сферы. Барыс Уладзіміравіч вельмі добра ставіўся да савецкіх вучоных, але ўспамінаў, што ў адрозненне ад іншых, яны заўсёды былі вельмі стрыманымі, "закаванымі"...

**— Ці давялося яму на Захадзе прабівацца ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі, альбо, дзякуючы таленту, ён цяжкасцяў пазбегнуў?**

— Мы гэтую тэму не закраналі, але з таго, што Барыс Кіт расказаў пра сябе, я зразумеў: заваяваць сваё месца пад сонцам было надзвычай цяжка. Але ён быў фанатам сваёй справы: вызначаў пэўны аб'ём работ, выконваў іх, як належыць, і рухаўся далей.

### Еўропа больш утульная...

**— Чаму Барыс Кіт у рэшце рэшт перабраўся са Злучаных Штатаў у Германію?**

— ЗША, на мой погляд, краіна крыху "фанерная": у ёй спадручна займацца бізнесам, але такой багацейшай культурнай, інтэлектуальнай праслойкі, як у Еўропе, там няма. Так што для такіх людзей, як Барыс Кіт, Еўропа — больш утульная. Барыс Уладзіміравіч лічыць сябе грамадзянінам свету, але тым не менш ганарыцца сваім амерыканскім грамадзянствам і вельмі трапятліва ставіцца да Злучаных Штатаў. І ўсё ж такі ён гаворыць: "Мне ў Франкфурце, у Германіі вельмі камфортна!" Ён лічыць Амерыку краінай-вызваліцельніцай, і мы з ім крыху паспрачаліся. Я сказаў, што ЗША — краіна не такая ўжо ідэальная, бо не без яе ўдзелу трэці рэйх быў так моцна ўзброены, і не без яе ўдзелу з'явіўся ў свой час Адольф Гітлер. І толькі калі ён ператварыўся ў монстра і стаў пагрозай для сваіх былых патронаў, тыя схамянуліся. Барыс Уладзіміравіч са мной не згадзіўся, але, я думаю, што калі-небудзь мы да гэтай тэмы вернемся.

**— Якое наогул уражанне выклікаў у Вас Барыс Кіт?**

— Як сказаў мой малады калега, уражанне такое, быццам ён увесь час на старце! Гэта энергічны, бадзёры, рухавы чалавек, добразычлівы, просты ў зносінах, які мае светлую галаву і жывы розум. Ён валодае некалькімі мовамі і цудоўна размаўляе па-беларуску. Ён з задавальненнем еў, запіваў усё нямецкім півам і адчувалася, што гэта сапраўдны жыццялюб, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, якія выпалі на яго долю. Я ўяўляю, якая моцная энергетыка была ў яго ў 40, 50 і нават у 60 гадоў! Безумоўна, ён быў сапраўдным генератарам ідэй і магутнай энергіі, таму нядзіўна, што дабіўся такога поспеху!

**— А, скажам, чарку гарэлкі ён можа выпіць?**

— Думаю, можа, хаця мы гарэлку не пілі, абмежаваліся півам. За здароўем Барыса Уладзіміравіча пільна сочыць Тамара, яго другая жонка. Гэта прыгожая, высокаадукаваная, абаяльная жанчына, маладзейшая за Кіта, але ўзрост яе вызначыць не бяруся, ды, напэўна, гэта і не патрэбна. Адчуваецца, што паміж імі вельмі добрыя, цёплыя адносіны. Барыс Уладзіміравіч сказаў: "Я ўдзячны сваёй Тамары за тое, што яна так клапоціцца аб маім здароўі. Самае галоўнае — яна сочыць, каб я шмат рухаўся і меў фізічныя нагрузкі, якія стымулявалі б і падтрымлівалі арганізм, бо 93 гады — узрост усё ж такі немалы!"

Двое яго сыноў ад першага шлюбу жывуць са сваімі сем'ямі ў ЗША. Старэйшы, Уладзімір, нарадзіўся ў 1940 годзе і ўжо мае дваіх унукаў. Ён закончыў факультэт палітычных навук і замежнай дыпламатыі, сярод выкладчыкаў якога былі Кісінджэр і Бжэзінскі, факультэт фізікі і факультэт электроннай інжынерыі і з'яўляўся, дарэчы, чэмпіёнам ЗША па тэнісе. Зараз ён — кіраўнік аднаго з аддзелаў Міністэрства астранаўтыкі ў Вашынгтоне. Барыс Уладзіміравіч вельмі ганарыцца, што Уладзімір добра валодае беларускай мовай.

Малодшы, Віктар, нарадзіўся ў 51-м годзе, закончыў Мэрылендскі універсітэт, займаўся мікрабіялогіяй, потым закончыў яшчэ і медыцынскі факультэт і стаў першакласным хірургам. Мае дачку-падлетка. Карацей кажучы, абодва сыны Барыса Уладзіміравіча — годныя прадстаўнікі роду Кіта.

**— А чым Барыс Кіт займаецца цяпер?**

— Калі ён пераехаў у Еўропу, то нейкі час працаваў на ваеннапрамысловы комплекс: вучыў матэматыцы афіцэраў НАТА. Зараз, па словах Барыса Уладзіміравіча, самы любімы яго занятак — чытаць і аналізаваць нямецкія газеты. А яшчэ ён падтрымлівае кантакты з беларусамі, якія жывуць у Германіі альбо прыязджаюць туды. У прыватнасці, ён часта сустракаўся і меў цёплыя сяброўскія адносіны з Васілём Быкавым. Не ведаю, ці праўда, але я чуў, што свой апошні твор Васіль Быкаў напісаў пра Барыса Кіта.

**— Ці не збіраецца Барыс Уладзіміравіч наведаць Радзіму?**

— Ён бываў у Беларусі ў першай палове 90-х гадоў, калі яна стала незалежнай, і больш пакуль сюды не збіраецца: па-першае, яму не падабаецца сённяшні палітычны рэжым у нашай краіне, і, па-другое, Кіт прызнаўся, што ў яго ўзросце трэба ўжо засцерагацца хваляванняў і стрэсаў.

**— Вы не дарма выбралі дранікі, бо гэта не проста блюда з бульбы, гэта — сімвал Беларусі, удасканалены на працягу стагоддзяў цэлай нацыяй. Дзіўна, што яны яшчэ не выціснулі прыдуманыя біг-макі і розныя "бургеры", але каб ад дранікаў мець асалоду, іх трэба не проста есці, а выконваць рытуал: прыемныя людзі за сталом, цікавая гутарка, прыгожая беларуская мова...**

— А ў нас усё так і атрымалася: настрой быў добры, усе гаварылі без перапынку, і час праляцеў, як адно імгненне! Барыс Уладзіміравіч папрасіў мяне перадаць пажаданне свабоды беларускаму народу і поспехаў — "Народнай волі"! Вельмі шкада было развітвацца...

**— А дранікі ўдаліся?**

— Дранікі ўсе хвалілі, хаця, не хачу ўтойваць, была адна недарэчнасць. Для сапраўднай беларускай мачанкі, акрамя ўсяго іншага, абавязкова трэба мець пальцам пханую каўбасу. У Германіі ёсць усё: мы купілі добрую свініну, іншыя прадукты, — але пальцам пханай каўбасы так і не знайшлі!

**Ганна АРЦЮШКЕВІЧ.**



*Яго ведаюць ва ўсім свеце.*



*Гутарка з землякамі.*



*Сустрэча Юрыя Пашыка (справа) з Барысам Кітам не магла не адбыцца.*




# В катастрофе Як-40 в Ташкенте погиб глава миссии ООН в Узбекистане

*На борту самолета Як-40, потерпевшего во вторник катастрофу в ташкентском аэропорту, находился глава представительства ООН в Узбекистане Ричард Конрой. Об этом заявили в пресс-службе штаб-квартиры ООН в Нью-Йорке. Самолет "Узбекских авиалиний" разбился во время посадки в аэропорту Ташкента во вторник вечером. Он упал на взлетно-посадочную полосу в непосредственной близости от жилых кварталов города. По последним данным, в катастрофе погибли все 37 человек, находившиеся на борту самолета, совершавшего рейс по маршруту Термез—Ташкент.*

*Власти Узбекистана исключают вероятность теракта на борту самолета, заявляя, что по предварительным данным причиной катастрофы стали плохие погодные условия в районе ташкентского аэропорта. В то же время, очевидцы происшествия — жители окружающих аэропорт домов — утверждают, что Як-40 загорелся еще в воздухе на подлете к аэропорту.*

### Крупнейшие авиакатастрофы

Каждый год в мировой авиации регистрируются десятки аварий, в которых гибнут люди. Только катастроф с количество жертв, превышающим две сотни человек, за последние 20 лет произошло двенадцать, не говоря уже о терактах 11 сентября 2001 года в США, которые унесли жизни тысяч человек.

Утром **3 января 2004 года** "Боинг-737" египетской авиакомпании Flash Airlines через несколько минут после вылета из аэропорта курортного города Шарм-аш-Шейх потерпел катастрофу над Красным морем. Приблизительно в 11 километрах от берега спасательные службы обнаружили его обломки. Все 152 человека — 135 французских туристов, один гражданин Японии, один гражданин Марокко, семь египтян, а также семеро членов экипажа, тоже граждан Египта, — погибли. Самолет летел чартерным рейсом в египетскую столицу Каир, после чего французские граждане должны были отправиться на нем в Париж. Погодные условия в Шарм-аш-Шейхе были нормальными, видимость — хорошей. Перед падением экипаж самолета не передавал сигналов бедствия и не сообщал о каких-либо неполадках. Министерство гражданской авиации Египта официально заявило, что "Боинг" потерпел аварию по технической причине. МИД страны полностью исключил версию теракта.

**25 декабря 2003** года разбился "Боинг-727", принадлежавший ливанской компании UTA. Самолет с 156 пассажирами и 7 членами экипажа вылетел из западноафриканского государства Бенин в Бейрут. При взлете лайнер задел хвостом крышу одного из зданий в конце взлетной полосы, последовал взрыв, и через несколько минут самолет упал на берег Атлантического океана. Пассажиры "Боинга" — в основном, ливанцы, работавшие в Бенине и возвращавшиеся домой на Рождество. Погибли 111 человек.

19 февраля 2003 года в горах на юго-востоке Ирана разбился военно-транспортный самолет Ил-76МД. Все 302 человека — экипаж и военнослужащие Корпуса стражей исламской революции — погибли.

**2 июля 2002 года** из-за ошибки швейцарских диспетчеров российский пассажирский авиалайнер Ту-154 компании "Башкирские авиалинии" столкнулся с грузовым самолетом "Боинг-757" компании международных авиаперевозок DHL на высоте 11 тысяч метров в небе над Германией в районе Боденского озера. На борту Ту-154 находились 12 членов экипажа и 57 пассажиров — 52 уфимских школьника, летевших на отдых в Испанию, и пятеро сопровождавших их взрослых. На борту "Боинга" были два пилота. Все они погибли.

**25 мая 2002 года** "Боинг-747" компании China Airlines, следовавший из Тайпея в Гонконг, рухнул вскоре после взлета. Ни один из 225 человек не выжил.

**12 ноября 2001** года аэробус "А-300", принадлежавший American Airlines, вылетел из США в Доминиканскую республику. Через несколько минут после взлета он упал на жилой квартал Нью-Йорка. Погибли 260 человек на борту и пятеро на земле.

**4 октября 2001 года** во время учений украинских ПВО ракета С-200 из-за ошибки военных сбила над Черным морем пассажирский самолет Ту-154 российской авиакомпании "Сибирь", выполнявший рейс Тель-Авив—Новосибирск. На его борту находились 12 членов экипажа и 66 пассажиров, 51 из которых были гражданами Израиля.

**11 сентября 2001 года** "Боинги-767", ведомые террористами-смертниками из "Аль-Кайеды", с интервалом в 18 минут врезались в северную и южную башни Всемирного торгового центра в Нью-Йорке. Количество жертв, включая тех, кто находился в лайнерах и здании ВТЦ, а также пожарных и полицейских, составило около трех тысяч человек. В этот же день "Боинг-757" врезался в Пентагон. Погибли 64 пассажира и члена экипажа. Другой лайнер этой марки упал в лесах Пенсильвании. Катастрофа унесла жизни 45 человек. Два из четырех захваченных террористами самолетов принадлежали компании American Airlines, а остальные — United Airlines.

**31 октября 1999 года** египетский "Боинг-767", летевший из Нью-Йорка в Каир, упал в Атлантический океан. Погибли 217 человек.

**2 сентября 1998 года** самолет "МакДоннелл Дуглас" швейцарской компании Swissair, следовавший по маршруту Нью-Йорк—Женева, потерпел аварию над канадской провинцией Новая Шотландия. Погибли 229 человек.

**12 ноября 1996 года** саудовский "Боинг-747" столкнулся в воздухе над Дели с казахским Ил-76. Погибли 349 человек.

**21 декабря 1988 года** "Боинг-747" американской компании Pan American был взорван ливийским террористом над шотландской деревней Локерби. В воздухе и на земле погибли 270 человек.

**3 июля 1988 года** иранский "А-300" был сбит ракетой, выпущенной с американского военного корабля "Винсенс" в Персидском заливе. Убиты 290 человек.

**12 августа 1985 года** японский "Боинг-747" врезался в гору во время внутреннего рейса. Погибли 520 человек.

**23 июня 1985 года** над побережьем Ирландии взорвалась бомба, заложенная в индийский "Боинг-747". Жертвами теракта стали 329 человек.

